# ДРУГОЕ ПАСЛАННЕ СВЯТОГА ПЯТРА

## 1 (1-21)

[1]Сымон Пётр, слуга і апостал Езуса Хрыста — тым, хто прыняў аднолькава
дарагую нам веру праз справядлівасць Бога нашага і Збаўцу Езуса Хрыста.
[2]Няхай памножацца ў вас ласка і спакой праз пазнанне Бога і Езуса, нашага
Пана.
[3]Ад Боскай сілы Ягонай нам даравана ўсё для жыцця і пабожнасці
дзякуючы пазнанню таго, хто паклікаў нас для ўласнай славы і хвалы, [4]праз
што даў нам вялікія і каштоўныя абяцанні, каб праз іх вы сталі саўдзельнікамі
Божай натуры, пазбегнуўшы згубы пажадлівага свету. [5]З гэтай самай прычыны
прыкладайце ўсе намаганні, каб дапоўніць веру вашую цнотай, цноту —
пазнаннем, [6]пазнанне — стрыманасцю, стрыманасць — цярплівасцю,
цярлівасць — пабожнасцю, [7]пабожнасць — братняю любоўю, а братнюю
любоў — любоўю. [8]Калі ўсё гэта ў вас ёсць і памнажаецца, то вы не будзеце
бяздзейнымі ды бясплённымі ў пазнанні Пана нашага Езуса Хрыста. [9]У каго ж
няма гэтага, той сляпы, закрыўшы вочы, забыўся пра ачышчэнне сваіх даўніх
грахоў. [10]Таму, браты, старайцеся яшчэ больш умацаваць вашае пакліканне і
выбар. Так паступаючы, ніколі не спаткніцёся. [11]Тады шырока адкрыецца перад
вамі ўваход у вечнае Валадарства нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста.
[12]Таму я заўсёды буду напамінаць вам пра гэта, хоць вы і ведаеце ды
ўмацаваны ў гэтай праўдзе. [13]Лічу справядлівым, пакуль знаходжуся ў гэтым
намёце, заахвочваць вас напамінам, [14]ведаючы, што хутка пакіну гэты намёт
мой, як і адкрыў мне наш Пан, Езус Хрыстус. [15]Буду ж старацца, каб вы і пасля
майго адыходу заўсёды ўспаміналі пра гэтыя рэчы.
[16]Мы далі вам спазнаць моц і прыйсце нашага Пана Езуса Хрыста, не ідучы
за мудра складзенымі байкамі, але будучы відавочцамі Ягонай велічы. [17]Ён
атрымаў ад Бога Айца пашану і славу, калі ад велічнай славы да Яго сышоў такі
голас: «Гэта Мой Сын умілаваны, якога ўпадабаў Я». [18]І мы чулі, як гэты голас
даносіўся з неба, калі былі з Ім на святой гары. [19]Да таго ж у нас ёсць
мацнейшае, прароцкае слова. І вы добра зробіце, калі будзеце трываць пры ім,
як пры лямпе, што свеціць у цёмным месцы, пакуль не пачне світаць дзень і
зараніца не ўзыдзе ў сэрцах вашых. [20]Толькі памятайце перш за ўсё, што ніякае
прароцтва ў Пісанні не належыць да прыватнага тлумачэння. [21]Бо прароцтва
ніколі не паходзіла з волі чалавека, але ад імя Бога абвяшчалі яго людзі,
натхнёныя Духам Святым.

## 2 (1-22)

[1]Былі ж і фальшывыя прарокі ў народзе, як і ў вас будуць фальшывыя
настаўнікі, якія ўвядуць згубныя ерасі і, выракаючыся таго, хто адкупіў іх,
Валадара, наклічуць на сябе хуткую згубу. [2]І многія пойдуць за іх
разбэшчанасцю, і праз іх шлях праўды будзе зняважаны. [3]І ў хцівасці будуць
вас лавіць лісьлівымі словамі. Прысуд ім даўно гатовы, і згуба іх не абміне.

[4]Бо калі Бог не пашкадаваў анёлаў, якія зграшылі, але, звязаўшы путамі цемры, скінуў у адхлань, каб там чакалі суда; [5]калі не пашкадаваў таксама даўняга свету, але паслаў патоп на бязбожных, захаваўшы толькі восем асоб разам з Ноем, веснікам справядлівасці; [6]і калі гарады Садому і Гамору, асудзіўшы на знішчэнне, абярнуў у попел, як перасцярогу бязбожнікам, [7]а справядлівага Лота, змучанага распусным жыццём нягоднікаў, ўратаваў, [8]бо гэты справядлівы, жывучы сярод іх і чуючы ды бачачы ўчынкі беззаконня, штодня адчуваў мучэнне ў сваёй справядлівай душы, [9]то ведае Пан, як ўратаваць пабожных ад выпрабавання, а несправядлівых захаваць на дзень суда, [10]асабліва тых, што служаць целу ў нячыстай пажадлівасці і пагарджаюць уладай Божай.

Дзёрзкія, ганарыстыя, не баяцца нават зневажаць нябесныя істоты, [11]тады як анёлы, хоць і большыя сілаю і моцаю, не асуджаюць іх перад Панам. [12]А яны, як неразумныя жывёлы, народжаныя паводле прыроды на ўлоў ды ўбой, зневажаюць тое, чаго не ведаюць, таму як яны будуць знішчаныя [13]і атрымаюць адплату за несправядлівасць. Шчасцем лічаць яны штодзённую асалоду; бессаромныя і распуснікі, яны знаходзяць асалоду ў ашуканствах сваіх, банкетуючы з вамі. [14]Вочы іхнія напоўнены чужаложствам і няспынным грахом; яны зводзяць слабых; іх сэрца прывучана да нажывы; гэта сыны праклёну. [15]Яны пакінулі просты шлях, заблукалі, сышоўшы на дарогу Балаама, сына Басора, які палюбіў несправядлівую ўзнагароду, [16]але быў асаромлены за сваё беззаконне: бязмоўная ўючная жывёліна, прамовіўшы чалавечым голасам, спыніла шаленства прарока. [17]Гэта крыніцы бязводныя, хмары, што бура ганяе; для іх падрыхтаваны змрок цемры. [18]Бо, прамаўляючы надзьмутыя і пустыя словы, яны зводзяць праз пажадлівасць цела і распусту тых, хто ледзь толькі ўцёк ад заблукалых. [19]Яны абяцаюць ім свабоду, хоць самі застаюцца нявольнікамі знішчэння, бо хто кім пераможаны, той таго і нявольнік.

[20]Калі ж, уцёкшы ад сапсаванасці свету праз пазнанне нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста, зноў, заблытаўшыся, паддаюцца ёй, то апошняе для іх горшае за першае. [21]Бо лепш было б ім не ведаць дарогі справядлівасці, чым, пазнаўшы, адвярнуцца ад перададзенай ім святой запаведзі. [22]Сталася з імі паводле слушнай прыказкі:
«*Сабака вяртаецца да сваіх ірвотаў,*
а вымытая свіння — у брудную лужыну».

## 3 (1-18)

[1]Умілаваныя, гэта ўжо другое пасланне пішу вам; у іх праз напамін абуджаю чыстыя думкі вашыя, [2]каб вы памяталі словы, сказаныя раней святымі прарокамі і запаведзь Пана і Збаўцы, перададзеную вашымі Апосталамі, [3]ведаючы перадусім тое, што з’явяцца ў апошнія дні з кпінамі насмешнікі, якія будуць паступаць паводле сваёй пажадлівасці [4]і пытацца: «Дзе абяцанне Ягонага прыйсця? Бо ад часоў, калі пачалі паміраць айцы, усё трывае так, як ад пачатку стварэння». [5]Яны ж не хочуць зразумець, што праз слова Божае здаўна існуюць нябёсы і зямля з вады і праз ваду паўстала, [6]таму і загінуў тагачасны

свет, затоплены вадою. [7]Цяпер жа нябёсы і зямля падтрымліваюцца тым жа
словам і захоўваюцца для агня на дзень суда і згубы бязбожных людзей.

[8]Умілаваныя, гэта адно няхай не будзе схавана ад вас, што ў Пана адзін
дзень, як тысяча гадоў, і тысяча гадоў, як адзін дзень. [9]Не марудзіць Пан з
выкананнем абяцання, як некаторыя лічаць гэта марудлівасцю, але Ён
доўгацярплівы да нас. Ён не хоча, каб нехта загінуў, але хоча, каб усе прыйшлі
да пакаяння. [10]Прыйдзе ж дзень Пана, як злодзей. І тады нябёсы прамінуць з
вялікім шумам, распаленыя стыхіі разбурацца, а зямля і ўсё створанае на ёй
згараць.

[11]Калі так гэта будзе знішчана, дык якімі ж трэба быць у святым жыцці і
пабожнасці вам, [12]якія чакаеце і прыспешваеце прыйсце Божага дня, калі
палаючыя нябёсы будуць знішчаны, і распаленыя стыхіі растопяцца. [13]Але мы,
паводле абяцання Ягонага, чакаем *новага неба і новай зямлі*, на якіх прабывае
справядлівасць.

[14]Таму, умілаваныя, чакаючы гэтага, пастарайцеся, каб Ён знайшоў вас
бездакорнымі і беззаганнымі, у спакоі, [15]а доўгацярплівасць Пана лічыце
збаўленнем, як і ўмілаваны наш брат Павел дзякуючы атрыманай мудрасці
напісаў вам, [16]як і ва ўсіх пасланнях, у якіх ёсць цяжкія для зразумення рэчы, і
невукі ды нясталыя ў веры перакручваюць гэта, як і іншыя Пісанні, на ўласную
згубу.

[17]Таму вы, умілаваныя, ведаючы гэта наперад, сцеражыцеся, каб,
зведзеныя памылкамі беззаконных, вы не страцілі ўласны грунт пад нагамі.
[18]Але ўзрастайце ў ласцы і пазнанні нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста. Яму
слава і цяпер, і ў дзень вечнасці. Амэн.